


## НЯМА СЭНСУ

«Мы агледзелі агарод грамадзяніна Н. Карова сапраўды нанесла страты. Аднак зыходзячы з пункту гледжання, што яна не чалавек, а істота несвядомая, прыцягнуць апошнюю да адказнасці няма сэнсу».

(З акта праверкі)

*

## КАПЕРНІК У СТРАІ

У царскай арміі вышыкавалі салдат і загадалі стаяць стрункаю.

— Хто круціцца? — крыкнуў афіцэр.

— Зямля, — прагучэла ў страі.

— Хто сказаў, што зямля круціцца?

— Капернік...

— Салдат Капернік, крок наперад!

*

## НЕ МОЖА БЫЦЬ!

На вуліцы сустрэліся два суседзі. Адзін з іх і кажа:

— Вы чулі, сусед Іван памёр.

— Не можа гэтага быць...

— Чаму?

— Дык ён жа мне тысячу злотых вінаваты.

*

## АПІНІЯ

Малады драматург запрасіў аднойчы Бернарда Шоў на прэм'еру сваёй п'есы. Шоў праспаў большую частку спектакля. Пасля заканчэння аўтар сказаў з папрокам:

— Як вы маглі спаць? Вы ж ведалі, як мне залежыць на вашай апініі.

— Тое, што я спаў, з'яўляецца апініяй, — адказаў Шоў.

*

## НЕ Ў АДНАГО ЛЕЧЫЦЦА

Алкаголік да лекара:

— Ратуйце мяне, калі ласка, ад гэтай хваробы.

—А ці даўно вы п'еце?

— Ды ўжо гадоў з дзесяць.

— І шмат?

— Па літру ў дзень.

— Тады, пакуль, я вызначаю вам не больш ста грам на дзень. А праз тыдзень зноў зайдзіце да мяне.

Праз тыдзень яны сустрэліся. «Хворы» ледзь трымаўся на нагах.

— Няўжо на вас так дзейнічае сто грам гарэлкі? — здзівіўся лекар.

— А вы што ж, шаноўны, думаеце, што я толькі ў вас лячуся?...

## ВЫТРЫМКА

Малады бацька ішоў вуліцай, коцячы перад сабою каляску, у якой крычала дзіця.

— Спакойна, Міхась, спакойна, — бубніў увесь час бацька, — галоўнае не нервавацца.

— Цудоўна, добра, вельмі добра! — уставіла жанчына, якая праходзіла побач. — Адразу відаць, што вы ўмееце абыходзіцца з дзіцём вытрымана, спакойна.

Потым нахілілася да дзіцяці і жартам запытала:

— Значыць, цябе завуць Міхась, малады чалавек?

— Не, вы памыляецеся. Яго завуць Кастусь, — растлумачыў бацька. — Міхась — гэта я.

## Думкі Яська Апалоніка

Вінаватаму адвакат памагае, як хвораму — хвароба...

* * *

Не скалі з дурнога зубоў, бо без часу павыпадаюць...

* * *

Праўда ў вочы коле, але не для лгуна...

* * *

Хуліган капялюша насіць не сароміцца...

* * *

Чалавек ёсць кавалём свайго шчасця, але без прыладаў і каваль сашніка не зробіць.

Ясько АПАЛОНІК

## КУР'ЕЗЫ

### Удасканаленыя карты

У магазінах Нью - Йорка з'явіліся карты незвычайнай формы — круглыя. Новыя карты маюць значныя перавагі перад прамавугольнымі: іх лягчэй тасаваць і, апрача таго, імі можна накрываць піўныя кубкі.

«Морген»



— Яшчэ не навучыўся падаваць лапы...

# Арганізацыйная праца

Арганізавалі мы Камітэт сяброў працоўнага дзіцяці (КСПД). Запісаліся ўсе. Інакш нельга. Працоўнае дзіця трэба паважаць.

Але камітэт нешта працаваў слабавата. Не было ні сходаў, ні якоекольвек работы. Сорамна. Каб памагчы камітэту, мы арганізавалі Таварыства дапамогі Камітэту сяброў працоўнага дзіцяці (ТДКСПД).

Справа ясная, запісаліся ўсе як адзін. Як жа не памагчы КСПД, калі мы яго самі арганізавалі.

Але дарма! Ці то актыў быў у нас слабаваты, ці то па іншых якіх прычынах Таварыства дапамогі Камітэту сяброў працоўнага дзіцяці не апраўдала спадзяванняў. Склікалі мы надзвычайны сход усяго калектыву, на якім, улічваючы сур'ёзнасць становішча, арганізавалі Саюз аматараў Таварыства дапамогі Камітэту сяброў працоўнага дзіцяці (САТДКСПД), каб падтрымаць Таварыства дапамогі Камітэту сяброў працоўнага дзіцяці, а тым самым умацаваць Камітэт сяброў працоўнага дзіцяці. І такі быў дух і разуменне моманту, што са слязьмі захаплення на вачах мы ўсе ўступілі ў САТДКСПД.

Цяжкасці, аднак, паявілічваліся. Аднойчы мы нават хацелі склікаць сход камітэта, але ж не разарвешся. Спачатку трэба было сабраць Таварыства дапамогі Камітэту, якое не магло сабрацца, бо перад гэтым павінен быў адбыцца сход Саюза аматараў Таварыства дапамогі Камітэту, які быў сарваны, бо ніхто не прыйшоў.

Тады кіраўніцтва звярнулася да нас з заклікам. Усе былі поўныя рашучасці. Прадбачачы цяжкасці, на надзвычайным пасяджэнні мы стварылі Усеагульную лігу абароны Саюза аматараў Таварыства Дапамогі Камітэту... Камітэту... Камітэту...

Чакайце, як гэта было? Нейкая Камісія... Камісія... Якая Камісія?

Славамір МРОЖАК



Паляванне на льва

# ЦЯЖКІ ГОД

П'яны Пракоп штуршком нагі адчыніў дзверы хлява і, утрымліваючы раўнавагу, ухапіўся сутаргава за перагародку.

Вядома, што ў цвярозага ў галаве, тое ў п'янага на языку. Гікнуўшы, Пракоп звярнуўся да свіней з прамовай:

— Рохкаеце, чорт бы вас узяў! Пойла просіце! А я вам прынёс дулю з макам! Пра бульбу забываеце. У горадзе бульба ў цане. У сёлеташнім неўраджайным годзе на сябе не зарабляеце. Кукуруза — чатыры сотні метр! Ды ці ж з вашай свіной адукацыяй зразумееце, што такое чатыры чырвоненькіх? Як да вясны дажывеце, будзеце магчы крапівай абжырацца, а пакуль — дуля! Чух, чух... ласкавая знайшлася, цалавацца лезеш. А паэт сказаў: «Забыты нежные лобзанья...» Неўраджай такі, што нагавіцы спаўзаюць. «Свіння — гэта ашчадная каса». Ха-ха! Чаго людзі не выдумаюць. Пры такім неўраджайным годзе не выпіць?

Вып'ем чарку, вып'ем
і другую, з гора;
Усе гавораць — п'яным
па калені мора...

Пачаў спяваць Пракоп, але не закончыў. Ногі яго падагнуліся, зрабіліся мяккімі, бы халявы.

— Пракоп! Пракоп! Дзе цябе чорт занёс?! — раздаўся з ганка гучны голас гаспадыні.

Не чуючы адказу, баба закрычала ва ўсю сілу лёгкіх:

— Пра-коп-ка!!!

— Пацалуй мяне... — пачаў было адгукавацца, седзячы на зямлі, Пракоп, але не хапіла смеласці зрыфмаваць і ён абараў сказ на палавіне.

Калі гаспадыня стала на парозе хлява, Пракоп усё яшчэ стараўся безвынікова падняцца на ногі.

— Тут табе і месца! П'яны, бы свіння! — заўважыла жонка.

— Няпраўда. Свіні цвярозыя, неўраджаю не перажываюць, — засупярэчыў муж.

— А ты, кахаленькі мой, перажываеш?

— Каб ты ведала, мучаюся... Асыпка падаражэла, свіней не пракормім... гік...

— Свіней як-небудзь пракормім, а вось цябе прапаіць не збіраюся. Марш у хату!

Бачачы бездапаможнасць мужа, баба схапіла яго пад рукі і павалакла да ганка.

Звесіўшы галаву, бы зарэзаны певень, Пракоп бурчаў:

— За грахі нашы настаў цяжкі час. Са свіннямі — ох, як цяжка! А з бабамі яшчэ горш.

— Я табе, п'яніца, памудрагелю ў хаце, каб людзі не бачылі, — прыгразіла гаспадыня.

Грамадзяне мілыя, ці п'юць нашы людзі з-за цяжкага часу, ці з-за п'янства наступае цяжкі час — хто ведае? А з неўраджайнымі няшчасцямі цвярозыя хутчэй справіцца.

Дзядзька Лявон

Анатоль ГАЛЧАНАЎ

## Жаба і мора

Да мора Жаба даскакала
Зачаравалася ім дужа яна
І так з натхненнем праквактала:
«Вялізная якая лужына!»

## БЕЗ СЛОЎ



## ПЕСНІ НА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Зіны Кавальскай змяшчаем савецкую песню

## Кто там из горочки спустился

Кто там из горочки спустился?
Наверно милый мой идёт.
На нём защитна гимнастёрка, 2 разы
Она с ума меня сведёт.

На нём погоны золотые
И яркий орден на груди.
Зачем, зачем я повстречала 2 разы
Его на жизненном пути.

Зачем, когда проходишь мимо,
С улыбкой машешь мне рукой?
Зачем ты к нам сюда приехал, 2 разы
Зачем нарушил мой покой?

Тебя увижу, сердце сразу
В моей волнуется груди.
Зачем, зачем я повстречала 2 разы
Тебя на жизненном пути?